

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!




# КООПЭРАЦЫЯ БССР


ЧАСОПІСЬ БЕЛКООПСАЮЗУ і БЕЛКООППРАМСАЮЗУ

ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІН РАЗ У 20 ДЗЕН




ЧЭРВЕНЬ

№ 7



МЕНСК 1931

# ЗЬМЕСТ



Галоўлітбел № 1419. Заказ № 2009—1500 экз. „Палесдрук“, Гомель.

# Увага ўборачнай кампаніі

Уборачная кампанія сёлетняга году мае выключнае гаспадарча-палітычнае значэньне. Да часу ўборкі ўраджаю мы дасягнулі звыш 30 проц. колектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Папярэднія падлікі паказваюць, што плошча азімых і яравых пасеваў, якія будуць убірацца колектыўна, у гэтым годзе складзе ня менш, як 1 мільён 200.000 *га*. Калі да гэтай лічбы дадаць яшчэ, што плошча працаёмкіх тэхнічных і прапашных культур павялічваецца ў калгасах у гэтым годзе ў 5-6 разоў і нават больш, чым у мінулым годзе, і тое, што, прыкладна, 600.000 *га* сенажаці будзе ўбірацца колгасамі, то стане зусім зразумела, якія вялікія і адказныя задачы стаяць у часе ўборкі ўраджаю. Такая вялікая плошча засеву ў колгасах і зацяжная сяўба з прычыны позьняе вясны патрабуе асаблівае напружанасьці ў рабоце, максымальнага скарачэньня тэрміну ўборкі, каб не пакінуць на лузе ніводнае капы сена, забясьпечыўшы два ўкосы, а на полі—ніводнага снапа збожжа.

У часе ўборачнай кампаніі коопэрацыйныя організацыі могуць і павінны адыграць надзвычайна вялікую ролю. Тут уся сыстэма спажкоопэрацыі павінна паказаць сваю гнуткасьць, уменьне організаваць сваю работу так, каб практычна аказаць дапамогу ў правядзеньні такой важнай гаспадарча-палітычнай кампаніі, як уборка ўраджаю.

Трэба памятаць, што **„ўборачная кампанія 1931 году мае вялікае гаспадарча-палітычнае значэньне ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і выраашэньня ўсіх задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі і будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, далейшага разгортваньня колгаснага руху, жорсткае барацьбы з кулацтвам і яго ліквідацыі на базе суцэльнае калектывізацыі** (з пастановы ЦК КП(б)Б).

Вакол уборкі ўраджаю трэба разгарнуць шырокую растлумачальную агітацыйна-масавую работу. Кожны ЦРК, кожный райсаюз кожнае сельСТ павінны мець дасканалыя пляны ўдзелу ў гэтай кампаніі. Пляны павінны быць рэальнымі, іх трэба абгаварыць на пашыраных паседжаньнях коопэрацыйнага актыву, групах беднаты, сходах пайнікаў і членаў саюзу гандлёва-коопэрацыйных служачых. Пляны павінны складацца на аснове конкрэтных магчымасьцяй, максымальна выкарыстоўваючы ўсе наяўныя сілы, якія мае кожная коопэрацыйная адзінка.

Трэба вылучыць адказных таварышоў, якія-б сачылі за выкананьнем складзеных плянаў, паказваючы прыклад ударнае работы. Усю працу па ўдзелу ў дапамозе ўборкі ўраджаю спажкоопэрацыя павінна праводзіць мэтадам соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Каб практычна дапамагчы саўгасам, колгасам і адзінаасобным бядняцка - серадняцкім гаспадаркам, трэба пры кожным сельСТ, коопбюро і крамах організаваць ударныя групы-брыгады з коопактывістаў, скарыстаць выходныя дні працаўнікоў коопэрацыі для выезду на ўборку. Трэба організаваць брыгаднае шэфства па ўборцы ўраджаю, заключыць дагаворы соцспаборніцтва паміж сельСТ, райсаюзамі, ЗРК, коопбюро і коопактывам на лепшы ўдзел у правядзеньні ўборачнай кампаніі. Для заахвочваньня лепшых коопэрацыйных адзінак і асобных працаўнікоў,

якія сапраўды пакажуць узорныя прыклады бальшавіцкае работы, выявяць гнуткасьць свайго апарату ў часе ўборкі, Белкоопсаюз, ЦРК, Райсаюзы, сельСТ павінны вызначыць пэўныя сродкі для прэм'яваньня.

Для таго, каб саўгасы, колгасы і бядняцка-серадняцкія адзінаасобныя гаспадаркі прышлі да ўборкі ўраджаю больш падрыхтаванымі, спажкоопэрацыя безадкладна павінна забясьпечыць нізавыя зьвеньні свае сыстэмы дробным сельскагаспадарчым інвэнтаром (косы, брускі, мянташкі, сярпы, граблі, вілкі, вяроўкі і г. д.).

Надзвычайна вялікую ролю ва ўборачнай кампаніі будзе адыгрываць наладжанасьць грамадзкага харчаваньня. Прыклады мінулага году паказалі, што тыя колектыўныя гаспадаркі, якія забясьпечылі ўборачную кампанію грамадзкім харчаваньнем (дастаўка яды на месца працы), мелі добрыя вынікі. Тут жа трэба констатаваць, што спажкоопэрацыя ў мінулым годзе прыняла вельмі слабы ўдзел у організацыі грамадзкага харчаваньня ў часе ўборкі.

Улічваючы памылкі мінулага году, спажкоопэрацыя сёлета павінна зараз-жа прыступіць да організацыі грамадзкага харчаваньня ў колгасах. Таксама вялікую ролю ў часе ўборкі ўраджаю будзе мець яшчэ і тое, наколькі поўнасьцю будзе выкарыстана жаночая праца. Таму організацыя дзіцячых ясьляў і пляцовак на час уборачнай кампаніі павінна быць разгорнута ў дастатковай колькасьці і гэтым самым даць магчымасьць усім жанчынам прыняць актыўны ўдзел ва ўборцы.

У галіне культурна-масавага абслугоўваньня спажкоопэрацыі трэба зьвярнуць вялікую ўвагу на організацыю агітпавозак, палявых выязных насьценных газэт, кіно, радыё, кніжок, каб даць магчымасьць рацыянальна скарыстаць вольны ад работы час.

Сваячасовай падрыхтоўкай да ўборкі і добрым правядзеньнем яе забясьпечым новы прылііў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у колгасах і з большым яшчэ посьпехам будзем рухацца наперад па шляху суцэльнае колектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

---

С. С-на

## Спажкоопэрацыя, на перадавыя позыцыі рэалізацыі пазыкі

На аснове правільнага і рашучага правядзеньня генэральнай лініі партыі пасьпяхова будуецца соцыялізм у нашай краіне.

Растуць новыя заводы, фабрыкі, электростанцыі. На базе соцыялістычнай прамысловасьці шпаркім тэмпам ідзе перабудова сельскай гаспадаркі. Дробныя малатаварныя бядняцка - серадняцкія гаспадаркі аб'ядноўваюцца ў буйныя высокатаварныя колектыўныя гаспадаркі. Процант колектывізацыі па СССР дасягнуў ужо 53 проц., у нас, у БССР, колектывізавана звыш 32 процантаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. **„Савецкі саюз з краіны дробнасялянскай гаспадаркі і адсталай земляробчай тэхнікі ператвараецца ў дзяржаву буйнай колектыўнай гаспадаркі і перадавой земляробчай тэхнікі“** (Сталін).

1931 год зьяўляецца рашаючым у справе выкананьня пяцігадовага пляну будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне. Трэці рашаючы год пяцігодкі завяршае пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі.

Шпаркія тэмпы патрабуюць усё новых і новых укладаньняў. Неабходнасьць фінансаваньня соцыялістычнай будоўлі добра ўсьвядомілі рабочыя, колгасьнікі і бядняцка-серадняцкія масы адзінаасобнікаў.

Ідучы насустрач патрабаваньням працоўных, савецкі ўрад выпусьціў пазыку імя трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Контрольныя лічбы па гэтай пазыцы вызначаны ў суме 1 мільярд 600 мільёнаў рублёў.



Знаёмяцца з мэханізмам трактара.

Рабочыя масы і колгасьнікі высунулі патрабаваньні аб выпуску новай пазыкі імя трэцяга, рашаючага, году пяцігодкі. Гэтыя патрабаваньні сустрэлі гарачы водгук у шырокіх гушчах працоўных мас СССР.

Разьмер пазыкі адпавядае тым патрабаваньням, якія прад'яўляе грандыёзнае соцыялістычнае будаўніцтва ў трэцім, рашаючым, годзе, забясьпечвае фінансаваньне пабудовы ў гэтым годзе 518 новых заводаў і 1040 машына-трактарных станцый

Контрольная лічба рэалізацыі пазыкі па БССР вызначана ў 42 мільёны 100 тысяч руб., для вёскі гэтая лічба выражаецца ў 16 мільёнаў руб.

Мы маем усе ўмовы ня толькі для выкананьня, але і перавыкананьня вызначанай для рэалізацыі на вёсцы сумы па пазыцы. Звыш 32 проц. колектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак — падстава гэтаму, бо колгасы—гэта тая апора, пры дапамозе якой мы зможам уцягнуць у рэалізацыю пазыкі ўсё сялянства.

Рэалізацыя пазыкі—вялікая гаспадарча-політычная кампанія. Яна павінна праводзіцца на аснове самай шырокай агітацыйна-масавай работы сярод колгасьнікаў і бедня-коў і серадняков-адзінаасобнікаў і прынцыпах поўнай добраахвотнасьці.

Пытаньне аб рэалізацыі пазыкі трэба шырока абгаварыць на праўленьнях коопэрацыі і сходах пайшчыкаў, шырока разгарнуць соцспаборніцтва па падпісцы на пазыку, організаваць прэм'яваньне лепшых комісій садзейнічаньня і асобных работнікаў спажкоопэрацыі за найбольш пасьпяховае правядзеньне гэтай кампаніі.

Соцспаборніцтва, ударніцтва, сустрэчныя пляны, грамадзкі буксір, дапамога адстаючым зьяўляюцца асноўнымі мэтадамі ў правядзеньні гэтай важнейшай кампаніі.

Кожны работнік і пайнік спажкоопэрацыі павінны памятаць, што поўнай рэалізацыяй пазыкі мы забясьпечваем пабудову 518 новых заводаў і 1040 МТС у сёлетнім годзе і гэтым самым забясьпечваем яшчэ больш шпаркія тэмпы суцэльнай колектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

Лёзунгамі па рэалізацыі пазыкі павінны быць:

Ня менш як трохтыднёвы заробак кожнага работніка спажкоопэрацыі, ня менш як трохтыднёвы даход пайніка—на пазыку трэцяга, рашаючага году!

Цалкам рэалізаваць вызначаную суму пазыкі.

---

Я. Крылавіцкі

## Выкананьнем пляну мобілізацыі сродкаў узмацнім фінансавую базу спажкоопэрацыі

Народнагаспадарчы плян трэцяга рашаючага году пяцігодкі патрабуе вялізарных капітальных укладаньняў ва ўсе галіны народнай гаспадаркі і, галоўным чынам, як у прамысловасьць, сельскую гаспадарку, так і па лініі спажывецкай коопэрацыі.

Далейшае разьвіцьцё спажывецкай коопэрацыі цесна зьвязана з выкананьнем усяго народнагаспадарчага пляну. Згодна пастановы сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК, а таксама і апошнім пастановам ЦКУсеКП(б) і СНК СССР, Цэнтрасаюзу і Бюро ЦК КП(б)Б работа спажывецкай коопэрацыі на даным этапе набывае вялізарнае політычнае значэньне. Пасьпяховая работа спажывецкай коопэрацыі ў значнай ступені кладзе вядомы адбітак і ўплыў як на пасьпяховае выкананьне прамфінпляну кожнага прадпрыемства ўасобку, так і народнагаспадарчага пляну ў цэлым.

Асноўныя задачы, якія пастаўлены партыяй перад спажывецкай коопэрацыяй, цесна зьвязаны са ўсімі задачамі, што стаяць перад рабочай клясаю, і яны павінны быць цалкам выкананы, асабліва ў галіне забесьпячэньня рабочае клясы і палепшаньня яе матар'яльнага добрабыту.

Для забесьпячэньня выкананьня ўсіх гэтых задач неабходна мецъ сваю ўласную, моцную фінансавую базу і хутчэйшае вызваленьне сродкаў дзяржавы, якія павінны быць укладзены ў прамысловасьць і сельскую гаспадарку.

Гэта фінансавая база можа быць ўмацавана шляхам поўнага выкананьня пляну коопэраваньня і мобілізацыі сродкаў пайнікаў спажкоопэрацыі.

Плян мобілізацыі сродкаў за асобны квартал 1930 году быў выкананы ў гарадох: па паявых узносах на 131 проц., па спэцыяльных узносах—на 95 проц.. па ўкладах і авансах заданьне ня выканана, дзякуючы недастаткова праведзенай растлумачальнай і грамадзка-масавай рабоце вакол гэтага пытаньня, пакрыцьцю таварамі раней сабраных авансаў і значнай недагружанасьці тавараў у Беларусь. Па вёсцы заданьне па паёх выканана на 84 проц., па ўкладах і авансах—на 144 проц. і па спэцыяльных узносах—на 233 проц. Такім чынам, увесь плян па мобілізацыі сродкаў насельніцтва за асобны квартал па горадзе і вёсцы выканан на 95 проц.

Контрольныя лічбы Цэнтрасаюзу на першы квартал, які складалі 7 мільёнаў 600 тысяч рублёў, павялічаны Белкоопсаюзам да 8 мільёнаў 220 тысяч рублёў, гэта значыць на 620 тысяч рублёў больш.

Плян за першы квартал па горадзе выканан па паёх на 112 проц., па ўкладах і авансах ня выканан і па мэтавых узносах—на 74 проц. Па вёсцы: па паявых узносах выканан на 47 проц., укладах-авансах—44 і па мэтавых узносах—на 103 проц. Такім чынам плян па горадзе і вёсцы па ўсіх відах мобілізацыі сродкаў выканан на 53,5 проц. Такое нездавальняючае выкананьне пляну мобілізацыі сродкаў і асабліва па паёх на вёсцы тлумачыцца наступнымі асноўнымі прычынамі: **галоўная і асноўная прычына—гэта адсутнасьць грамадзка-масавай работы вакол такой важнейшай справы.**

Грамадзкая думка рабочых, колгасьнікаў і астатняга працоўнага насельніцтва вакол гаспадарча-палітычнай важнасьці поўнага выкананьня мобілізацыі сродкаў не мобілізавана.

Калі ўзяць маючыся коопэрацыйны актыў пры большасьці ЦРК і райсаюзаў, то гэты актыў ніякага ўдзелу ў працы па збору паявых і мэтавых узносаў пайнікаў і коопэргваньня насельніцтва ня прымае.

Да апошняга часу коопбюро, коопэрацыйнакрамныя комісіі і другія грамадзкія організацыі, што маюцца пры прадпрыемствах, коопэратывах, займаліся выключна пытаньнямі разьмеркаваньня дэфіцытных тавараў, але ні ў якім разе не мобілізацыяй сродкаў. Большасьць праўленьняў ЦРК і райсаюзаў ня ўцягвалі і не завострывалі пытаньня аб выкананьні пляну мобілізацыі сродкаў перад коопэрацыйным актывам. Ёсьць некаторыя райсаюзы, якія ні разу ня ставілі пытаньня мобілізацыі сродкаў на абгаварэньне праўленьня, ужо ня кажучы аб пастаноўцы гэтых пытаньняў на спэцыяльных агульных сходах пайнікаў. Побач з коопэрацыйнымі організацыямі ў цэлым радзе месц профсаюзныя організацыі лічаць справу мобілізацыі сродкаў справаю выключна спажкоопэрацыі, але ня профсаюзу. У большасьці коопэрацыйна-крамныя комісіі ня маюць конкрэтных цьвёрдых заданьняў па мобілізацыі сродкаў насельніцтва. Многія Райсаюзы справай мобілізацыі сродкаў займаюцца яшчэ да гэтага часу **формальна**, атрыманае заданьне разьвёрстваецца па крамах, а ў апошні час у сувязі з рэорганізацыяй гэтае заданьне разьвёрстаецца па сельСТ; к канцу месяца робіцца мэханічнае падагульненьне работы па мобілізацыі сродкаў без належнага рэагаваньня і прыняцьця рашучых захадаў да ліквідацыі гэтага прарыву.

Дырэктыва ЦК Партыі і Белкоопсаюзу аб тым, каб справу забясьпячэньня пайнікаў паставіць у

поўную залежнасьць ад унясеньня пайнікам поўнасьцю і ў тэрмін свайго паявога і мэтавага ўзносу, ня ўсюды яшчэ выконваецца. У цэлым радзе раёнаў ёсьць выпадкі, калі ў пытаньні мобілізацыі сродкаў ў адносінах да колгасьнікаў падыходзяць неяк боязна і нерашуча: „а можа пакрыўдзіцца і выйдзе яшчэ з колгасу“. Бясcумненна, што пры ўзысканьні паю павінна быць захавана выразная клясавая лінія, павінен быць вядомы падыход, але пай, які належыць, павінен быць узысканы, бо паявы ўзнос узмацняе фінансавую базу спажкоопэрацыі і гэтым самым паляпшае забесьпячэньне пайніка. Ёсьць таксама выпадкі скажэньня клясавай лініі пры ўзысканьні паёў, калі больш заможная частка вёскі ўнесла меншы пай, чым бяднейшая частка.

Праўленьне Белкоопсаюзу пытаньне мобілізацыі сродкаў спэцыяльна ставіла на нарадах ЦРК і Райсаюзу і неаднакроць завастрала гэтыя пытаньні як у сваіх дырэктывах нізоўцы, так і спэцыяльным камандыраваньнем інструктарскага апарату на месцы для абсьледваньня ходу мобілізацыі сродкаў і дапамогі ў рабоце. Трэба зазначыць што сельСТ, маючы такую невялікую тэрыторыю для сваёй дзейнасьці, ня ведае, якая запазычанасьць таго, ці іншага саўгасу, колгасу па паёх і спэцыяльных узносах ня кажучы ўжо аб запазычанасьці індывідуальнікаў.

Контрольныя лічбы Цэнтросаюзу на другі квартал гэтага году ў 7 мільёнаў 600 тысяч рублёў былі павялічаны Белкоопсаюзам да 8 мільёнаў 563 тысяч рублёў.

Плян другога кварталу па горадзе за красавік месяц па паявых узносах выканан на 100 проц., за май—на 76 проц., па ўкладах і авансах за красавік—на 164, за май—на 120 проц. Па мэтавых узносах за красавік—на 53 проц., за май—на 66 проц. Па вёсцы паі выкананы за красавік на 27 проц., за май—на 52 проц. Уклады і авансы за красавік—226 проц., за май—223 проц. Спэцыяльныя ўзносы за красавік—57 проц. і за май—76 проц. Такім чынам плян мобілізацыі сродкаў на другі квартал па вестках на 1 чэрвеня выканаы па горадзе на 36,4 проц., па вёсцы—на 40 проц., а ўсяго па горадзе і вёсцы—на 45,3 проц.

За апошні час Белкоопсаюзам ужыты фінансавыя рэпрэсіі (скарачэньне завозу тавараў) да Полацкага, Вульскага і Хоцімскага Райсаюзаў, якія ганебна адстаюць у выкананьні сваіх плянаў мобілізацыі сродкаў. Таксама аддадзены суду Смалявіцкі Райсаюз, які выканаў свой плян паянамнажэньня за красавік на 7,3 проц. і за дзьве дэкады мая—на 21 проц. Здавальняюча выканалі свой плян. і Віцебскі, Заслаўскі, Тураўскі і Межанскі Райсаюзы.

З прыведзеных дадзеных відаць, што ў маі месяцы мы маем некаторы зрух у выкананьні пляну мобілізацыі сродкаў насельніцтва ў параўнаньні з красавіком месяцам, але далёка яшчэ недастатковы. Гэты зрух тлумачыцца ў асноўным праводзеньнем грамадзка-масавай работы, паступовым паваротам твару Райсаюзу, профорганізацый і профактыву па справе мобілізацыі сродкаў і ўвядзеньню цьвёрдага гаспадарчага разьліку ва ўсёй рабоце кожнага ЦРК, райсаюзу.

Контрольныя лічбы Цэнтрасаюзу па мобілізацыі сродкаў на трэці квартал у разьмеры 5 мільёнаў 285 тысяч рублёў павялічаны Белкоопсаюзам да 9 мільёнаў 726 тысяч рублёў, разьвёрстаны ў раённым разрэзе і дадзены нізоўцы, з наступнай устаноўкай збору гэтых сродкаў па месяцах: у ліпені—45 проц. квартальнага заданьня, у жніўні—30 проц. і ў верасьні—25 проц.

Неабходна адзначыць, што плян коопэраваньня цесна зьвязаны з выкананьнем пляну мобілізацыі сродкаў; за першы квартал выканаы па горадзе на 67 проц., а па вёсцы на—18 проц. Цэлы рад коопэрацыйных

організацый па сваёй опортуністычнасьці справе коопэраваньня не надаюць ніякага значэньня. Ёсьць яшчэ коопэрацыйныя работнікі якія разважаюць, што коопэрацыя займае монопольнае значэньне ў справе забесьпячэньня, і спажывец сам прыдзе прасіць, каб яго коопэравалі, бо ён нікуды ня дзенецца, сустракаюцца такія-ж шкодныя настроі— „няма наогул каго коопэраваць, паколькі насельніцтва цалкам коопэравана“. Па такіх настроях трэба ўдарыць, з такімі разважаньнямі трэба змагацца.

Усе вышэйадзначаныя прычыны нездавальняючай работы спажкоопэрацыі Беларусі па выкананьні пляну мобілізацыі сродкаў насельніцтва сьведчаць аб тым, што з боку многіх коопэрацыйных, профэсійных і другіх грамадзкіх організацый на мясцох ёсьць недаацэнка ўсёй політычнай важнасьці справы мобілізацыі сродкаў. У многіх мясцох справа мобілізацыі сродкаў яшчэ да гэтага часу ідзе самацёкам, і кіраўніцтва ЦРК, а асабліва райсаюзу зусім недастатковае.

Для забесьпячэньня поўнага выкананьня пляну мобілізацыі сродкаў неабходна зрабіць наступныя асноўныя мерапрыемствы: **правесьці спэцыяльныя сходы пайнікаў на якіх прапрацаваць контрольныя лічбы коопэраваньня, мобілізацыі сродкаў на трэці квартал 1931 г., з давядзеньнем асобных заданьняў да кожнага сельСТ, магазына, коопэрацыйна-крамнай камісіі і асобных коопактывістаў.** Кожнаму ЦРК, ЗРК і РайСаюзу трэба завесьці вучот выкананьня заданьня па коопэраваньню і мобілізацыі сродкаў кожным СельСТ, магазынам, коопкрамнымі комісіямі, коопбюро і асобнымі катывістамі, сыстэматычна высьвятляючы выкананьне гэтых заданьняў як у друкаванай прэсе, так і ў насьценных газэтах, вывешваючы на чорную дошку тых, хто сыстэматычна ня выконвае дадзенага яму заданьня. Адначасова практыкаваць прэм'іяваньне тых, якія добра выконваюць свае заданьні.

Коопэрацыйна-крамныя комісіі павінны прыстасаваць сваю работу па ўзысканьні паёў, асабліва пры атрыманьні зарплаты пастаяннымі рабочымі, сэзоннымі рабочымі і служачымі ў горадзе, а ў вёсцы— на аснове вучоту запазычанасьці кожнага колгасу, саўгасу і індывідуальніка, шляхам падворнага абыходу.

Уся работа па мобілізацыі сродкаў павінна быць ператворана ў масавую політычную кампанію, роўна з усімі асноўнымі гаспадарча-політычнымі кампаніямі, праводзячы яе пад лёзунгам: „Ніводнага працоўнага па-за коопэрацыяй, ніводнага пайніка, ня ўнесшага цалкам і ў тэрмін свой пай і мэтавы ўзнос на будаўніцтва“.

У зьвязку з організацыяй у сыстэме спажкоопэрацыі аб'яднаньня розьнічнаго гандлю, Белкоопсаюз на аснове дырэктыў Цэнтрасаюзу прыступае да распрацоўкі контрольных лічбаў па коопэраваньні і мобілізацыі сродкаў насельніцтва для кожнага аб'яднаньня паасобку.

Неабходна ўсёй сыстэме спажкоопэрацыі са ўсёй большавіцкай цьвёрдасьцю і настойлівасьцю напружыць усе свае сілы на тое, каб на працягу чэрвеня месяца выканаць поўнасьцю ўвесь плян першага кварталу з поўным пакрыцьцём недабору за першыя два месяцы другога кварталу, гэтым самым узмоцнім фінансавую базу ў спажкоопэрацыі і дапаможам выкананьню ўсяго народнагаспадарчага пляну трэцяга рашаючага году пяцігодкі.



П. Бурачэўскі

# Умацнім работу транспортнай коопэрацыі, палепшым абслугоўваньне чыгуначнікаў

Выключнае значэньне чыгуначнага транспорту, зьвязанага з абслугоўваньнем усіх галін народнай гаспадаркі, што зьяўляецца адным з важнейшых зьвеньняў на фронце соцыялістычнага наступленьня і пабудовы соцыялізму ў нашай краіне, ставіць перад транспортнай коопэрацыяй сур'ёзныя і адказныя задачы па організацыі абслугоўваньня і снабжэньня асноўных кадраў чыгуначнікаў, рабочых чыгуначных новабудоў, паравозных і паязных брыгад і пасажырнага патоку. Гэтае абслугоўваньне праводзіцца як праз стацыянарныя магазыны, крамы, ларкі, сталовыя і буфэты ў асноўных вузлавых пунктах і на прадпрыемствах чыгункі, так і па лініі праз вагон-крамы. Умовы работы транспорту і яго рабочых кадраў патрабуюць выразнасьці, сваячасовасьці і бесьперабойнасьці работы коопэрацыі. У выніку сур'ёзнай увагі нашай партыі і ўраду да работы спажывецкай коопэрацыі наогул і ў адносінах абслугоўваньня і снабжэньня коопэрацыяй чыгуначнікаў асобна, на падставе студзеньскіх дырэктыў адноўлена транспортная коопэрацыя шляхам вылучэньня яе з агульнай сыстэмы спажкоопэрацыі.

Дырэктывамі прадугледжвалася і прапаноўвалася: стварэньне матар'яльна-тэхнічнай базы, укомплектаваньне апарату і забесьпячэньне першачарговага і бесьперабойнага снабжэньня транспортнікаў. Аднак, ня гледзячы на катэгорычнасьць безагаворачнага выкананьня адзначаных дырэктыў, як у час організацыі транспортнай коопэрацыі, так і да апошняга часу мелі і маюць яшчэ месца рад парушэньняў гэтых дырэктыў і недахопаў у працы транспортнай коопэрацыі. Па асобных ТСТ яшчэ ня скончаны разрахункі, амаль усімі ЦРК не дадзена поўнасьцю патрэбнай колькасьці адпаведных работнікаў для забесьпячэньня нормальнай працы ТСТ, дапушчаліся затрыманьні фондаў таварапрадуктаў для чыгуначнікаў, перабоі ў снабжэньні і г. д. Прычынай гэтаму зьяўляліся праваопартуністычная практыка апарату асобных ЦРК у іх рабоце, з асаблівымі праявамі бюрократызму і дзяляцкіх адносін, што асабліва выявілася пры правядзеньні практычных мерапрыемстваў па выкананьні дырэктыў аб аднаўленьні транспортнай коопэрацыі. Адно з першых месц у гэтай справе, дапусьціўшы шэраг агідных фактаў, заняў Менскі цэрабкооп, работнікі якога прыстасоўваючыся да дырэктыў і заяўляючы аб забесьпячэньні поўнага іх выкананьня фактычна ігнаравалі апошнія. Яны, пры наяўнасьці таварапродуктаў, дапушчалі перабоі ў снабжэньні чыгуначнікаў, прымушаючы хадзіць выпрошваць патрэбнае для ТСТ, што патрабавала рашучага ўзьдзейнічаньня з боку Белкоопсаюзу, які перадаў справу прокурору рэспублікі аб прыцягненьні вінаватых да крымінальнай адказнасьці. І пасьля ўсяго гэтага Менскае ТСТ яшчэ да гэтага часу ня мае пачынальнага балянсу, не закончаны разрахункі, і замест нехапаючых работнікаў засталіся на адносінах БКС рэзолюцыі старшыні праўленьня МЦРК. „Дазвольце кадрамі ЦРК распараджацца праўленьню ЦРК. Кумкес“.

Праявы недаацэнкі транспортнай коопэрацыі і нежаданьне аказаць ёй практычную дапамогу працягваюць мець месца ня толькі ў цэрабкоопах, але і ў іншых мясцовых організацыях, якія зьяўляюцца адказнымі за выкананьне партыйных і ўрадовых дырэктыў у адносінах

транспортнай коопэрацыі і забесьпячэньні абслугоўваньня чыгуначнікаў. Напрыклад, у час падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы ў прыгарадных гаспадарках Аршанскі РК КП(б)Б, ставячы гэта пытаньне на пасяджэньні бюро, выклікаў і заслухаў даклад ЦРК а пра ТСТ, маючага гаспадарку на плошчы больш тысячы га, зусім забыўся. Таксама Віцебскі гарсавет у сваёй пастанове і газэта „Віцебскі пролетары", зьмяшчаючы ў тыў аб транспортнай коопэрацыі і абслугоўваньні транспортнікаў. Неабходна з усёю рашучасьцю ўдарыць па фактах недаацэнкі значэньня транспортнай коопэрацыі і зьнішчыць маючыя яшчэ месца недахопы і недапушчальныя адносіны і ненормальнасьці, зьвязаныя з рабочым снабжэньнем чыгуначнікаў. Органы наркомснабу, з усімі яго аб'яднаньнямі, коопэрацыя і іншыя гаспадарчыя організацыі павінны забясьпечыць выкананьне дырэктыў аб перша-



Фабрыка-кухня.

якасьці перадавіцы гэту пастанову, заметкі і вынікі праверкі ходу сяўбы ў прыгарадных гаспадарках („В. П." за № 114 ад 26/V-г. г.), ні словам не абмовіліся аб прыгараднай гаспадарцы Віцебскага ТСТ. Фактычнае-ж становішча з падрыхтоўкай і ходам сяўбы ў прыгарадных гаспадарках ТСТ не зьяўляецца здавальняючым і патрабуе мобілізацыі ўвагі і практычнага ўдзелу пролетарскай грамадзкасьці.

Прыведзенае сьведчыць, што і цяпер яшчэ патрабуецца напомніць і паўтарыць аб неабходнасьці зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на забесьпячэньне выкананьня дырэкчарговым, больш поўным і бесьперабойным снабжэньні чыгуначнікаў і не паўтараць сваіх тэндэнцый, меўшых праяўленьне ў зьмяншэньні і затрыманьні альбо адмаўленьні ў дачы таварапродуктаў, патрэбных для задавальненьня рабочых чыгуначнікаў, паравозных і паяздных брыгад, пасажырнага патоку, у тым ліку і замежнага.

Праведзеныя практычныя мерапрыемствы з часу аднаўленьня транспортнай коопэрацыі, дзякуючы вызначэньню цэнтралізаваных норм і фондаў і непасрэднаму атрыманьню мясцовых рэсурсаў таварапрндуктаў, далі ў апошні

час частковы зрух у напрамку палепшаньня снабжэньня рабочых чыгуначнікаў, але зусім яшчэ не дастатковы. Якасьць працы коопэрацыі па абслугоўваньні чыгуначнікаў застаецца яшчэ нездавальняючай. Практычная работа транспортнай кооэпрацыі патрабуе актывізацыі апарату і мобілізацыі пролетарскай грамадзкасьці чыгункі на забесьпячэньне выкананьня яе плянавых заданьняў па ўсіх галінах і паказальніках, абавязкова ўвязваючы гэта з выкананьнем транфінпляну, шляхам забесьпячэньня першачарговага і пераважнага снабжэньня важнейшых вучасткаў транспорту і стымуляваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва на транспорце. Праца ТСТ павінна будавацца ў адпаведнасьці з рашэньнямі, вызначанымі ў апошняй адозьве ЦК УсеКП(б), СНК СССР і Цэнтрасаюзу, з масавай прапрацоўкай апошняй на коопэрацыйных і профэсіянальных конфэрэнцыях, нарадах, сходах, з шырокім уцягненьнем рабочых чыгуначнікаў і іх жонак у практычную працу транспортнай коопэрацыі.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на організацыю і пасіленьне рабочага контролю над працай ТСТ па забесьпячэньню сапраўднага палепшаньня снабжэньня чыгуначнікаў.

Для ТСТ БССР у сучасны пэрыод патрабуюцца забесьпячэньне гароднінахавальнямі і квашпунктамі для хаваньня плодагародніны, як сваіх прыгарадных гаспадарак, так і атрымоўваемай па контрактакцыі і нарыхтоўках; крэдыты на капітальнае будаўніцтва; будаўнічыя матэрыялы для сеткі гандлёвага і грамадзкага харчаваньня; забесьпячэньне даўкомплектаваньня кваліфікаванымі работнікамі, сваячасовае і поўнае выкананьне нарадаў і перадача фондаў для снабжэньня чыгуначнікаў; забесьпячэньне выкананьня плянавых заданьняў па коопэраваньні і мобілізацыі сродкаў насельніцтва

Пасіленьнем працы апарату ТСТ, рашучым зьнішчэньнем маючагася самацёку, большай увагай і практычнай дапамогай з боку мясцовых партыйных, савецкіх, профсаюзных, гаспадарчых і коопэрацыйных організацый умацнім работу транспартнай коопэрацыі, палепшым абслугоўваньне чыгуначнікаў.

**Поўнай і сваячасовай рэалізацыяй пазыкі „Трэцяга, рашаючага“ забясьпечым будаўніцтва 518 новых заводаў і фабрык і 1040 машыннатрактарных станцый**

# Па-ўдарнаму скончыць сяўбу, правесьці ўборку і загатоўку новага ўраджаю

Сулькіна

## Аб сяўбе і падрыхтоўцы да праполачна-ўборачнай кампаніі ў прыгарадных гаспадарках

Падвёўшы першыя вынікі сяўбы спажывецкай коопэрацыі ў прыгарадных гаспадарках, можна канстатаваць, што пасеў гародных культур на 10 чэрвеня ў асноўным скончаны. Засталося яшчэ скончыць пасеў позьняй капусты і часткі позьняй бульбы, але завяршэньне севу зьяўляецца толькі часткай працы па выкананьні заданьня партыі і ўраду аб разьвіцьці прыгарадных гаспадарак для палепшаньня рабочага забесьпячэньня.

Этап сяўбы яшчэ ня скончан поўнасьцю, а ўжо сёньня перад намі стаіць грандыёзная задача, патрабуючая значна большай напружнасьці па захаваньню пасеву і атрыманьню максымальнага ўраджаю, гэта значыць правядзеньне работ па догляду за гароднымі культурамі, а затым і іх уборкаю. Таму лёзунг бязьлітаснай барацьбы з сьмяцьцёвымі расьлінамі і ахова нашых гародаў ад усялякіх шкоднікаў зьяўляецца баявой задачай сёньняшняга дню для прыгарадных гаспадарак спажывецкай коопэрацыі.

Для пасьпяховага правядзеньня гэтай барацьбы патрабуецца вялізарная колькасьць рабочай сілы. Згодна пляну, складзенаму с.-г. сэктарам БКС у часе праполачна-уборачнай кампаніі на прыгарадных гаспадарках БССР, для правядзеньня асноўных работ па догляду патрабуецца наступная колькасьць рабочых: правядзеньне поліва гароднай плошчы 5495 га патрабуе 6869 чалавек., правядзеньне прарэджваньня 1545 га—7728 чал., правядзеньне пульхненьня гароднай плошчы 9219 га патрабуе 561 чал., асыпаньне 2100 га—281 чал., падвязка 352 га—1763 чал. і г. д. Усяго патрабуецца для правядзеньня асноўных работ па догляду за гароднымі культурамі ў чэрвені 19354 чал. на працягу 20 дзён, у ліпені 8819 чал. на працягу 20 дзён, у верасьні 1486 чал. Акрамя гэтага догляд за кармавымі культурамі патрабуе ў чэрвені 3118 раб., у ліпені 4016 раб. і жнівені 1443, штодзённа на працягу 20 дзён.

Аднэй з асноўных задач, што стаяць у гэтым годзе перад прыгараднымі гаспадаркамі,—гэта правядзеньне ў прыгарадных гаспадарках цьвёрдай кармавой базы для забесьпячэньня жывёлы кармамі. Перажытыя ў гэтым годзе цяжкасьці з кармамі павінны быць зьнішчаны, для гэтага, апрача пасеву 10700 га пад кармавыя культуры, прыгарадныя гаспадаркі ЦРК павінны засіласаваць 55000 тон сілоснай масы. Для гэтага патрэбна мець 110000 куб. мэтр. ёмкасьці. Маецца ў гаспадарках з мінулага году 10000 куб. мэтр., будзе атрымана 15 сілосных вежаў з ёмкасьцю каля 10000 куб. мэтр. Такім чынам, застаецца выкапаць ямы і траншэі

ёмкасьцю ў 90 тыс. куб. мэтр., пры чым, згодна пастанове Саўнаркому БССР, гэта праца павінна быць праведзена да ліпеня месяца. Для капаньня ям і траншэй патрабуецца ня менш 2.000 чал. штодзённа, затым для правядзеньня самого процэсу сіласаваньня патрабуецца 39186 чалавекадзён.

Побач з гэтымі вялізарнымі задачамі па праполцы і догляду, прыгарадныя гаспадаркі павінны ўжо даньня па праполачна - уборачнай кампаніі ў прыгарадных гаспадарках.

Аднэй з асноўных умоў пасьпяховага правядзеньня гэтай працы—гэта своячасовая падрыхтоўка з улікам маючыхся недахопаў у гэтай галіне мінулага году, калі значная плошча пасеву загінула ў сувязі з несвоячасовым правядзеньнем праполкі. Неабходна з самага пачатку гэтай працы ўзяць бальшавіцкія тэмпы работы.




Спажкоопэрацыя ў лягерах. Абслугоўваньне чырвонаармейцаў у часе перапынку вялікага паходу.

рыхтавацца да ўборачнай кампаніі. Валавая прадукцыя гародных культур у прыгарадных гаспадарках павінна даць 40639 тон., а кармавыя культуры павінны даць 62000 тон. Своячасова сабраць і захаваць ураджай зьяўляецца таксама важнейшай задачай. Па мінімальных падліках патрабуецца для ўборкі ў ліпені 3868 чал. штодзённа, у жнівені—4623, у верасьні—5466 чал. Акрамя гэтага, патрабуецца вялікая колькасьць коннай цягавай сілы і другіх перавозачных сродкаў.

Усе вышэйпрыведзеныя лічбы яскрава гавораць, якая вялізарная колькасьць сродкаў і сіл патрабуецца для поўнага выкананьня за-

Адным з асноўных тормазаў своячасовага правядзеньня севу было амаль поўнае адсутнічаньне зьдзельнай аплаты працы ў прыгарадных гаспадарках. Таму плата па праполцы і ўборцы павінна быць неадкладна пераведзена на зьдзельную аплату працы, што зьявіцца асноўным стымулам для падвышэньня вытворчасьці працы рабочых прыгарадных гаспадарак.

Выключнае значэньне ў прыгарадных гаспадарках мае рацыяналізацыя працы, правільная расстаноўка сілы, своячасовая падрыхтоўка брыгадзіраў, максымальнае разгортваньне социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, шырокае

прымяненьне прэм'яваньня лепшых рабочых і брыгад. Адначасова побач з гэтым трэба весьці бязьлітасную барацьбу з маючымся яшчэ да гэтага часу ў гаспадарцы разгільдзяйствам, расхлябанасьцю і ўстанаўленьнем жорсткай працоўнай дысцыпліны.

Органы Наркомпрацы павінны прыняць самыя рашучыя захады для ўкомплектаваньня прыгарадных гаспадарак ЦРК неабходнай рабочай сілай. ЦРК з свайго боку павінны палепшыць сваю работу па вярбоўцы рабочай сілы, а таксама неадкладна скончыць будаўніцтва баракаў для рабочых.

У сувязі з вялікімі запатрабаваньнямі рабочай сілы ў пэрыод праполачна-ўборачнай кампаніі, лік якой даходзіць да 22 тысяч рабочых у дзень, асабліва важнае значэньне адыгрывае пытаньне прымацаваньня прыгарадных гаспадарак да фабрык і заводаў і аказаньне неабходнай працоўнай дапамогі. Таму пляны праполачнай і ўборачнай кампаніі павінны быць абгавораны на паседжаньнях фабрычна-заводзкіх комітэтатаў і агульных сходах рабочых, дзе павінен быць намечан конкрэтны плян дапамогі з боку рабочых фабрык і заводаў і служачых установаў. Трэба неадкладна разгарнуць растлумачальную работу сярод жонак рабочых і служачых і прыцягнуць іх для аказаньня дапамогі ў прыгарадных гаспадарках, вялікую дапамогу могуць і павінны аказаць у гэтай рабоце піонэрскія і школьныя організацыі, тэхнікумы і інш.

Толькі пры мобілізацыі ўсіх сіл і ў першую чаргу рабочых, а таксама максымальнай дапамозе з боку пролетарскай грамадзкасьці адміністрацыйна-тэхнічны пэрсонал прыгарадных гаспадарак і апараты ЦРК пастаўленыя перад спажыўкоопэрацыяй БССР задачы па засеву, праполцы і ўборцы 5600 га выканаюць.

Асноўныя задачы сёньняшняга дню ў прыгарадных гаспадарках— ніводнага га не праполанага пасеву, ніводнага га ня ўбранай плошчы, барацьба за максымальны ўраджай у прыгарадных гаспадарках спажкоопэрацыі.

---

**Ф-скі**

## Баявыя чарговыя задачы сыстэмы спажывецкай коопэрацыі ў плода-гароднінnай кампаніі

Значнае пашырэньне пасеўнай плошчы пад плода-гародніну па соцыялістычнаму сэктару (саўгасы, колгасы, прыгарадныя гаспадаркі ЦРК) забясьпечвае значнае павялічэньне паступленьня плода-гародніны ў бягучым годзе ў параўнаньні з мінулым 1930 годам.

Зазначанае высоўвае перад сыстэмай спажывецкае коопэрацыі, як перад аднэй з асноўчых загатоўчых організацый, на якую ўскладзена снабжэньне гароднінай рабочае клясы і іншых працоўных гораду, вялізарнейшыя і адказьнейшыя задачы.

Пасьпяховае правядзеньне плода-гароднінnай кампаніі патрабуе ад спажывецкай коопэрацыі напружанай і баявой працы ўсяго яе загатоўчага і снабжэнчаскага апарату.

У ажыцьцяўленьне апошняй адозвы СНК СССР, ЦК УсеКП(б) і Цэнтрасаюзу пры штабе спажывецкай коопэрацыі, Белкоопсаюзе, організавана па загатоўцы, збыту і пераапрацоўцы плода-гародніны „Белкоопплодагароднiна“. На мясцох,

пры райспажыўсаюзах, арганізуюцца спэцыяльныя загатоўчыя конторы (па ўсіх відох загатовак на поўным гаспадарчым разрахунку, а ў цэрабкоопах плодагароднінныя опэрацыі вылучаюцца ў асобныя аддзелы і часткі, таксама на гаспадарчым разрахунку.

Перад райспажыўсаюзамі стаіць баявая задача—сваячасова падрыхтавацца да загатоўчай плодагароднінай кампаніі, аформіць раённыя загатоўчыя конторы, падрыхтаваць апарат і правесьці іншую падрыхтоўчую работу (склады, вагі, гіры, тара, абсталяваньне для вагонаў і г. д.). Асаблівай увагі патрабуе падрыхтоўка да правядзеньня грыбной кампаніі і загатовак дзікарастучых пладоў і ягад. Неабходна зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі пунктаў для варкі грыбоў. У мэтах падрыхтоўкі кадраў па варцы, патрэбна да пачатку варачнай кампаніі правесьці раённыя курсы-конферэнцыі працаўнікоў па варцы. Значнае павялічэньне пляну пераапрацоўкі гародніны ў 1931 г. (засолка гуркоў, квашаньне капусты і сушка) патрабуе ад спажыўкоопэрацыі, у першую чаргу ад ЦРК, ЗРК і ТСТ самай напружанай работы па сваячасовому правядзеньню ўсёй падрыхтоўчай работы. Трэба безадкладна прыступіць да рамонту ўсёй тары і квасільных і засолачных пунктаў. Трэба ўлічыць, што становішча з тарай застаецца напружаным, таму з боку ЦРК, ЗРК і ТСТ павінны быць прыняты самыя энэргічныя меры да мобілізацыі сваіх унутраных тарных рэсурсаў і скарыстаньня ўсіх магчымасьцяй у гэтым напрамку.

У галіне снабжэньня плода-гароднінай перад спажывецкай коопэрацыяй стаяць найадказьнейшыя задачы. Цэрабкоопы павінны безадкладна ўстанавіць самую цесную сувязь з прымацаванымі да іх колгасамі і паселішчамі, ад якіх яны павінны атрымаць законтрактаваную продукцыю. Трэба вылучыць спэцыяльную асобу, у якасьці ўпаўнаважанага ЦРК, на якую ўскласьці праверку выкананьня пляну пасеву па контрактацыі, ступені падрыхтаванасьці колгасу і паселішчаў да ўборачнай кампаніі. У мэтах уцягненьня ЦРК у практычную дапамогу па загатоўцы і прыёмцы плода-гародніны, цэрабкоопы павінны прымацаваць іх да асобных колгасаў, ад якіх ЗРК і будуць непасрэдна атрымоўваць гародніну.

Пытаньне складзкіх памяшканьняў пад гародніну і транспорту, таксама патрабуе да сябе максымальнай ўвагі з боку ЦРК, ЗРК і ТСТ. Неабходна зараз-жа правесьці вучот усіх складзкіх памяшканьняў з мэтай перадачы і падрыхтоўкі іх для хаваньня гародніны, максымальна скарыстоўваючы памяшканьні ЖАКТ'аў, сталовых і інш. організацый. Аўта-гужавы транспорт ня толькі ЦРК, але і іншых організацый гораду павінен поўнасьцю павярнуцца тварам да плода-гароднінай кампаніі, абслугоўваючы яе ў першую чаргу. Трэба забясьпечыць скончэньне ў тэрмін пабудовы новых гароднінахавальнікаў. Нарэшце, трэба зараз-жа прыступіць да ажыцьцяўленьня пастаноў партыі і ўраду аб разгортваньні розьнічнай плода-гароднінай сеткі ў буйнейшых рабочых гарадох.

Толькі пры ўмове сваячасовай падрыхтоўкі да кампаніі, напружанай і выразнай працы ўсяго загатоўча-снабжэнчаскага апарату спажыўкоопэрацыі, пры шырокай дапамозе ўсёй грамадзкасьці мы справімся з тымі вялікімі задачамі, якія пастаўлены партыяй і ўрадам перад спажыўкоопэрацыяй у галіне правядзеньня найважнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі — плода-гароднінай.

---

# Вопыт практычнай работы

П. Рубін.

## Што ўяўляюць з сябе ЗРК Беларусі

Прайшло ўжо больш трох месяцаў са дня організацыі зачыненых рабочых коопэратываў. Пры актыўным удзеле рабочае грамадзкасьці была выканана пастанова сьнежаньскага і студзеньскага пленумаў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб організацыі зачыненых рабочых коопэратываў. У сучасны момант ужо прадстаўляецца магчымым падлічыць некаторыя вынікі.

У якой меры сябе апраўдала новая форма рабочага снабжэньня і якое месца займаюць ЗРК у рабочым зьвяне сыстэмы спажывецкай коопэрацыі БССР?

Трынаццаць ЗРК Беларусі аб'яднаюць 40.000 рабочых, або 22,2% усёй колькасьці снабжаемых рабочай коопэрацыяй БССР рабочых. Агульная колькасьць абслугоўваемага ЦРК насельніцтва складае 78.000, або 15,3 проц. усяго абслугоўваемага рабочай коопэрацыяй насельніцтва (без спэцыяльных груп).

Найбольшая колькасьць ЗРК організавана ў Віцебску—4, якія ахопліваюць 14.800 рабочых (37% усіх аб'яднаных ЗРК рабочых) і 26.300 насельніцтва (33,7 проц. усяго насельніцтва, абслугоўваемага ЗРК. У Менску організавана два ЗРК, якія аб'яднаюць 5400 рабочых (15,3 проц.) і 11.800 насельніцтва (15,1 проц.). Далей ідзе Гомель. дзе ёсьць два ЗРК і 5.000 рабочых (12,5 проц.) і 9.300 насельніцтва (11,9 проц.) У астатніх пунктах організавана па аднаму ЗРК.

Якія галіны прамысловасьці ахоплены ЗРК, відаць з наступнай табліцы:

| Галіны прамысловасьці | Кольк. ЗРК | Колькасьць рабочых | % да ітогу | Колькасьць насельніцтва | % да ітогу |
|---|---|---|---|---|---|
| Мэталяапрацоўчая | 3 | 7500 | 18,5 | 17750 | 22,7 |
| Дрэваапрацоўчая і запалкавая | 4 | 13550 | 33,5 | 25700 | 32,8 |
| Ільнапрадзільная, кравецкая і трыкотажная | 4 | 15400 | 38,3 | 27000 | 34,6 |
| Шоўкавая фабрыка | 1 | 2300 | 5,5 | 3800 | 4,9 |
| Белдрэс | 1 | 1700 | 4,2 | 3900 | 5,0 |
| Разам | 13 | 40450 | 100 | 78150 | 100 |

У асноўным ЦРК Беларусі абслугоўваюць рабочых, якія заняты па прадзеньню і апрацоўцы тканіны і штучнага валакна. Гэтыя ЗРК займаюць ва ўсёй сыстэме ЗРК БССР 43,8 проц. па колькасьці рабочых і 39,5 проц. па насельніцтву. Другое месца займае апрацоўка драўніны—33,5 проц. рабочых і 32,8 проц. насельніцтва. Далей ідзе апрацоўка мэталю—18,5% рабочых і 22,79 абслугоўваемага ўсімі ЦРК насельніцтва.

Сярэдняя колькасьць аб'яднаемых адным ЗРК рабочых складае 3.100 чал., найменшая колькасьць—1.700 (Белдрэс). Пры ўтварэньні ЗРК была дапушчана організацыя іх і пры двух прадпрыемствах, з якіх кожнае налічвае рабочых

менш установуленага мінімуму ў 2000. Такіх ЗРК ёсьць 6. Наогул усе 13 ЗРК Беларусі абслугоўваюць 20 прадпрыемстваў, апроч адпаведных фабзавучаў, якія аб'яднаюцца шэрагам ЗРК.

Трэба адзначыць, што абслугоўваньне адным ЗРК двух і больш прадпрыемстваў, не зьяўляецца станоўчым момантам. Ёсьць выпадкі „рэўнасьці“ рабочых аднаго прадпрыемства да другога. Двайное кіраўніцтва з боку двух заўкомаў ня можа поўнасьцю коордынавацца, што ўтварае некаторы адрыў ад заводзкай грамадзкасьці. Праўленьне ЗРК у такім выпадку павінна прыстасаваць сваю працу да розных асаблівасьцяй асобных прадпрыемстваў.

Організацыя снабжэньня ЗРК мела шэраг перашкод. На працягу першага і пачатку другога кварталу ЗРК прымушаны былі забясьпечвацца праз ЦРК, бо ўсе тавары для данага гораду былі занараджаны ў адрас апошніх. ЦРК пры гэтым дапускалі сугуба-гандлярскі падыход. Замест таго, каб у максымальнай меры аказаць дапамогу маладым організацыям, некаторыя ЦРК укрывалі паступіўшыя ў іх адрас тавары для рабочых усяго гораду. Работнікам ЗРК прыходзілася доўга дабівацца і, нарэшце, зварочвацца за дапамогаю адпаведных організацый, каб атрымаць ад ЦРК належачыя ім па норме тавары. У Менску, Віцебску, Магілеве і некаторых іншых гарадох ЗРК былі ізоляваны з боку ЦРК, якія нічога не рабілі для іх узмацненьня. „Вы зьяўляецеся самастойнай організацыяй, працуйце самі, як ведаеце“.

Такія адносіны адчуваліся асабліва з боку апарату ЦРК, які ня быў асьвядомлены праўленьнем аб значэньні ЗРК і аб ролі апарату ЦРК у іх узмацненьні. ЗРК „Кастрычнік“ было адмоўлена ў выдачы недаданай за красавік належачых па норме круп і маргарыну. Шмат недарэчнасьцяй было пры выдзяленьні ЗРК і продукцыі сьвінаадкорму.

Наогул па-гандлярскі ЦРК падыходзілі пры выдзяленьні матар'яльнай базы для ЗРК. Праяўлялася відавочнае імкненьне даваць горшае памяшканьне і менш тавараў. Тавары адпускаліся не па сабекошту, а з „надбавачкай“. Да гэтага часу шмат ЦРК яшчэ ня выдзелілі балянсу для ЗРК. З боку Белкоопсаюзу таксама ня было праяўлена дастатковай гібкасьці ў організацыі непасрэднага снабжэньня ЗРК і ў зьнішчэньні недахопаў.

У сучасны момант ЗРК ужо выходзяць з „дзіцячага“ пэрыоду. Шэраг з іх выяўляюць дастатковую настойлівасьць у разгортваньні працы і праяўляюць ініцыятыву ў вышуканьні дадатковых крыніц забесьпячэньня (мэталісты ў Менску і Гомелі, швэйнікі у Менску і Віцебску).

Даныя (опэрацыйныя) за красавік і май паказваюць наступнае аб зваротах ЗРК:

| | |
|---|---|
| Прадана тавараў на | 2971 т. р. |
| У % да ўсёй выручкі рабоч. коопэрацыі | 12,2 |
| Выручка сталовак | 658 т. р. |
| У % да ўсяго звароту грамадзк. харчаваньня рабоч. коопэрацыі | 13,6 |

Характэрна параўнаньне ўдзельнай вагі ЗРК у агульнай працы рабочай коопэрацыі Беларусіі па зваротах і па іншых паказчыках:

| | |
|---|---|
| Па колькасьці рабочых | 22,2% |
| Па колькасьці пайшчыкаў | 13,3% |
| Па колькасьці насельніцтва | 15,3% |

Больш нізкія паказчыкі зваротаў тлумачацца тым, што ЗРК яшчэ не разгарнулі сваей працы па ахопу зарплаты рабочых і па пашырэньні асортымэнту. Шэраг тавараў, як хлеб, газа і іншыя набываюцца яшчэ з крам ЦРК.

Звароты па асобных групах ЗРК (даныя за красавік і май)—прадстаўляюцца ў наступным у тысячах рублёў):

| Галіны прамысловасьці | Колькасьць насельніцтва | % да ітогу | Продаж тавараў | % да ітогу | Зварот на 1 едака | Колькасьць рабочых | % да ітогу | Сталовак і буфэтаў | % да ітогу | На 1 рабоч. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Металяапрацоўчая . . . | 17750 | 22,7 | 947 | 32,0 | 53 р. 50 к. | 7500 | 18,5 | 159 | 24,1 | 21 р. 20 к. |
| Дрэваапрацоўчая . . . . | 8800 | 11,2 | 231 | 7,7 | 26 „ 25 „ | 4600 | 11,1 | 62 | 9,5 | 13 „ 50 „ |
| Запалкавая . . . . . . | 16900 | 21,6 | 524 | 17,8 | 31 „ — | 8950 | 22,2 | 147 | 22,3 | 15 „ 30 „ |
| Швэйная . . . . . . . | 17100 | 21,9 | 555 | 18,4 | 32 „ 45 „ | 8700 | 21,6 | 104 | 15,9 | 11 „ 90 „ |
| Панчошная . . . . . . | 5500 | 7,1 | 237 | 7,8 | 43 „ 10 „ | 4100 | 10,2 | — | — | — |
| Ільнопрадзільная . . . . | 4400 | 5,6 | 173 | 5,9 | 39 „ 30 „ | 2600 | 6,4 | 39 | 5,9 | 15 „ — |
| Шаўковая . . . . . . . | 3800 | 4,9 | 173 | 5,9 | 45 „ 50 „ | 2300 | 5,5 | 65 | 9,8 | 23 „ 30 „ |
| Белдрэс (з торфзав.) . . | 3900 | 5,0 | 131 | 4,5 | 33 „ 50 „ | 1700 | 4,2 | 82 | 12,5 | 48 „ 20 „ |
| Разам . . | 78150 | 100 | 2971 | 100 | 38 р. 01 к. | 40450 | 100 | 658 | 100 | 18 р. 10 к. |

Пры аналізе гэтай табліцы неабходна ўлічваць, апроч эканамічных прычын, і мясцовыя асаблівасьці, неаднолькавасьць узаемнасьці паміж ЦРК і ЗРК, якасьць дапамогі ўгэтым не аказваюць. Заўкомы яшчэ не ўсьвядомілі сваёй ролі кіраўніка ў адносінах ЗРК. Слаба адбіваецца праца ЗРК у заводзкім друку.



Рыкуецца лес на новыя пабудовы.

працы асобных ЗРК і тое, што ня ўсе ЗРК аднолькавымі тэмпамі разгортваюць сваю работу.

Значна горш абстаіць справа з пастаноўкай грамадзкай працы. ЗРК да гэтага часу яшчэ ня здолелі наладзіць працу коопактыву іразгарнуць належным чынам рабочы контроль, а заводзкія комітэты ніякай да-

Мала што прароблена і ў сэнсе рацыяналізацыі работы. Да гэтага часу яшчэ існуюць паралельныя зьмешаныя магазыны ў адным ЗРК. Пры выдачы тавараў наглядаюцца чаргі. Вопыты некаторых ЗРК у арганізацыі папярэдніх заказаў яшчэ ня далі належных вынікаў.

ЗРК павінны з усёй энэргіяй, на падставе дырэктыў партыі і ўраду, разгарнуць сваю працу па сапраўднай перабудове спажкоопэрацыі, каб яна стала на службу вытворчасьці, каб яна была ў першых шэрагах па лепшым і пераважным снабжэньні ўдарнікаў і па ўзорнай пастаноўцы сваёй работы наогул.

Невялікі вопыт работы ЗРК відавочна паказвае, што яны поўнасьцю апраўдалі дырэктыву партыі і сталі на шлях сапраўднай перабудовы працы ў інтарэсах выкананьня і перавыкананьня прамфінплянаў.

Неабходна дэталёва вывучыць іх працу і на падставе гэтага праводзіць далейшае яе паляпшэньне.

---

Альпяровіч

## За жорсткае і экономнае выдаткаваньне продуктаў

Напружанае становішча, якое маецца ў нас зараз з некаторымі продуктамі, павінна было прымусіць усю коопэрацыйную сыстэму беражна і экономна выдаткоўваць іх, выдаючы толькі тым, якім гэта неабходна выдаваць, завесьці сталы вучот і сапраўдны контроль як па выдаткаваньню продуктаў, так і па руху спажыўцоў, што знаходзяцца на снабжэньні ў той ці іншай організацыі. У сапраўднасьці мы маем зусім адваротнае: цэлы рад нашых організацый гэтаму важнейшаму пытаньню, пытаньню жорсткага і экономнага выдаткаваньня продуктаў, пытаньню строгага вучоту спажыўцоў, альбо вельмі мала ўдзяляюць увагі, альбо зусім не ўдзяляюць. Асабліва дрэнна абстаіць справа з прадстаўленьнем справаздачнасьці па выдаткаваньню продуктаў. Большасьць організацый лічыць прадстаўленьне справаздачнасьці зусім непатрэбным, думаючы, што гэта бюрократызм. Яны зусім не разумеюць, што ад сваячасовага і правільнага прадстаўленьня справаздачнасьці залежыць правільнае плянаваньне і сваячасовая сыгналізацыя аб маючыхся недахопах у справе снабжэньня.

Зробленая гэтымі днямі праверка колькасьці абслугоўваемых сэзонных рабочых па Менскаму цэрабкоопу выявіла рад недапусьцімых зьявішчаў у галіне выдаткаваньня продуктаў. Асноўнае—гэта зусім безадказная выдача сэзонных наборных картак авансам прадпрыемствам на ня прыбыўшых яшчэ сэзоньнікаў. Ці дапусьціма гэта?—Бязумоўна не, бо пры такім парадку выдачы наборных картак цэрабкооп ня можа контраляваць сапраўдную выдачу картак „жывым людзям“.

Нормы выдачы хлеба ў сэктары снабжэньня грамадзкага харчаваньня Менскага цэрабкоопу па некаторых сталоўках зусім іншыя і вышэй, чым гэта ўстаноўлена. Пры праверцы едакоў у некаторых сталоўках выяўлена, што выдача хлеба вытваралася ў значна большым памеры, чым гэта патрэбна. Такое зьявішча іначай нельга кваліфікаваць, як самыя праступныя адносіны да жорсткага і экономнага выдаткаваньня хлеба:

Адзін з раёнаў (Сеньненскі) на прапанову Белкоопсаюзу аб выдзяленьні асобы, якая-б непасрэдна адказвала за перавыдатак хлеба супроць зацьверджаных плянаў адказаў, „у нас няма каго вядзяляць“. Такім чынам выходзіць, што хлеб можа выдаткоўвацца колькі каму ўздумаецца, і ніхто за гэта не павінен адказваць. Няўжо праўленьне Райспажыўсаюзу думае, што сваёю бюракратычнаю адпіскаю аб немагчымасьці выдзеліць адказную асобу за гэтую справу, яно зьняло

з сябе адказнасьць за правільнае выдаткаваньне хлеба?

Усе гэтыя факты сьведчаць, што справе жорсткага і экономнага выдаткаваньня продуктаў організацыямі зусім ня ўдзяляецца ўвагі, а ў асобных выпадках нават праступна адносяцца да гэтай справы, ня выконваючы дырэктывы партыі і ўраду ў гэтай галіне.

Апошняй пастановай праўленьня Белкоопсаюзу дадзена ў гэтым напрамку катэгорычнае паказаньне сэктару снабжэньня: па-першае, на чэрвень месяц продукты ўсім організацыям выдаваць выключна авансам, а астатнюю колькасьць выдаць толькі пасьля таго, як будзе прадстаўлена справаздачнасьць па выдаткаваньню і рэшта продуктаў за мінулыя месяцы, а тым організацыям, якія справаздачнасьць не прадставілі, спыніць далейшы водпуск асноўных продуктаў. Гэта пастанова вядома ўсім організацыям, але, на жаль, і на гэтую пастанову большасьць організацый не адгукнуліся, і справаздачнасьць, як і раней, амаль што не паступае. Усе організацыі павінны цьвёрда ведаць, што пры неакуратнай дачы ўсяе справаздачнасьці па выдаткаваньні продуктаў водпуск іх будзе безагаворачна спынен, і ўся адказнасьць за зрыў снабжэньня ў сувязі з гэтым ляжа на праўленьне адпаведных організацый, адсюль яны павінны рабіць усе неабходныя вывады.

Усе нашы організацыі павінны зараз-жа выдзеліць адказных асоб за своечасовае прадстаўленьне ўстаноўленых зьвестак аб правільным выдаткаваньні продуктаў. Патрэбна стварыць вакол усіх гэтых пытаньняў грамадзкую думку, узяць пад контроль шырокіх працоўных мас справу выдаткаваньня продуктаў.

**Дзьве трэція часткі пасеўнае плошчы вясеньняга севу засеяны саўгасамі і колгасамі. Коопэрацыйная сыстэма павінна своечасовай падрыхтоўкай да ўборкі забясьпечыць пасьпяховы збор ураджаю**

# У барацьбе за пролетарскія кадры

Н. Крывіцкі

## Забясьпечым наборы ў школы—дамо пролетарскія кадры спажывецкай сыстэме

У сучасны момант пытаньне перабудовы працы спажыўкоопэрацыі ў адпаведнасьці з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва пастаўлена ня толькі як проблема, але стаіць у роўніцы практычнага вырашэньня. Апошняй дырэктывай ураду і партыі перад спажыўкоопэрацыяй пастаўлена конкрэтная і практычная задача—з адстаючага вучастку соцыялістычнага будаўніцтва падцягнуцца на позыцыі і стаць адным з важнейшых цэхаў соцбудаўніцтва, які забясьпечыць ударныя тэмпы ў пабудове соцыялізму. Зразумела, што ў выкананьні гэтай важнай задачы першарадную ролю адыгрываюць кадры. Праца ў галіне кадраў павінна таксама „з адсталага вучастку працы органаў спажыўсыстэмы—стаць адным з важнейшых вучасткаў іх працы“. З гэтага пункту гледжаньня перад вытворчымі аб'яднаньнямі, перад ЦРК і Райсаюзамі паўстае конкрэтная задача практычнага і грунтоўнага пералому ў гэтай галіне. Недапусьцімым зьяўляецца і далейшае паўтарэньне тых нядбайных адносін і опортунізму, якія прывялі да зрыву раду намечаных школ (Магілеўскі і Гомельскі ЦРК), а таксама з боку значнай колькасьці райсаюзаў да комплектаваньня школ, якое мела месца ў мінулым. У сьвятле азначаных вышэй задач асабліва значэньне набывае адчыненьне новых школ па лініі спажыўсыстэмы і ўкомплектаваньне існуючых асеньнім наборам.

Паводле контрольных лічбаў сэктарам кадраў намечаны наступныя

**КОНТЫНГЕНТЫ**

**асеньняга набору ў стацыянарныя навучальныя ўстановы Белкоопсаюзу**

| НАЗВА НАВУЧАЛЬНАЙ УСТАНОВЫ | Агульная колькасьць набору | З іх | | Падрыхтоўка паступаючага | | | Час набору | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Гарадзкіх | вясковых | На базе 4-5 гр. | Курсы „дазавуч.“ | Сконч. 7-годкі | Ліпеньскі набор | Набор у жніўні і верасьні |
| Віцебская школа коопвучу . . . | 40 | 40 | — | — | 40 | — | — | 40 |
| Бабруйская „ „ . . . | 80 | — | 80 | — | — | 80 | 80 | — |
| Рагачэўская „ „ . . . | 80 | — | 80 | — | — | 80 | 80 | — |
| Мазырская „ „ . . . | 40 | — | 40 | — | — | 40 | 40 | — |
| Магілеўская „ „ . . . | 80 | 80 | — | — | 40 | 40 | 40 | 40 |
| Гомельская „ „ . . . | 80 | 80 | — | — | 80 | — | — | 80 |
| Менская ФЗВ кулінараў . . . | 120 | 80 | 40 | — | 40 | 80 | 80 | 40 |
| Гомельская „ „ . . . | 60 | — | 60 | — | 60 | — | — | 60 |
| Віцебская „ „ . . . | 70 | 40 | 30 | — | 40 | 30 | 30 | 40 |
| Магілеўская „ „ . . . | 70 | 40 | 30 | — | 30 | 40 | 30 | 40 |
| Менская ФЗВ хлебапячэн. . . . . | 40 | — | 40 | — | 40 | — | — | 40 |
| Менская школа саўгасвуч. . . . . | 40 | — | 40 | 40 | — | — | — | 40 |
| Слуцкая „ „ . . . . | 40 | — | 40 | — | — | 40 | 40 | — |
| Аршанская школа-магазын . . . . . | 60 | 60 | — | 60 | — | — | 60 | — |
| Коопэрацыйны тэхнікум . . . . . . | 220 | 70 | 150 | — | — | 220 | — | 220 |
| Тэхнікум грам. харч. . . . . . . . | 80 | — | 80 | — | — | 80 | — | 80 |

Як відаць з паказаных вышэй кантынгентаў, асеньні набор будзе праводзіцца ў наступныя групы школ масавага тыпу:

1. Школы коопэрацыйнага вучнёўства (коопвучы).

Азначаная група школ мае на мэце рыхтаваць працаўнікоў сярэдняга командната складу ў галіне абмену разьмеркаваньня, загатоўчай працы і рахункова-фінансавай.

Сярод гэтай групы школ дзьве школы, Магілеўская і Гомельская, організуюцца ў гэтым годзе, астатняя частка школ організавана ў 1930 годзе.

Комплектуюцца азначаныя школы дзяцьмі рабочых, колгасьнікаў, батракоў, рабочых саўгасаў, командыраванымі райспажыўсаюзамі і біржай працы (па гарадох).

2. Школы ФЗВ кулінараў. Гэта група школ рыхтуе сярэдні командны склад у гал не грамадзкага харчаваньня і кваліфікаваных майстраў для фабрык-кухняў і мэханізаваных сталовак.

Як і школы коопвучу, гэтыя школы комплектуюцца контынгентамі дзяцей працоўных гораду і вёскі.

3. Школа ФЗВ хлебапячэньня мае на мэце падрыхтаваць спэцыялістаў для хлебазаводаў (лярборантаў, тэхнолёгаў і кваліфікаваных майстраў), комплектуецца яна з ліку дзяцей гораду і вёскі.

Сярод школ ФЗВ школа, якая організуецца ў гэтым годзе у гор. Магілеве, будзе ўкомплектавана напалову дзяцьмі гораду і вёскі.

4. Школа саўгасвучу ставіць сваёй задачай падрыхтоўку спэцыялістаў для прыгарадных гаспадарак (гароднікаў, парнікаводаў, жывёлаводаў) і комплектуецца з ліку дзяцей рабочых саўгасаў, колгасьнікаў.

Усе пералічаныя вышэй школы ў пераважнай ступені комплектуюцца з ліку скончыўшых 7-годкі і курсы „дазавуч". Пры гэтым набор з ліку скончыўшых 7-годкі будзе праводзіцца ў ліпені месяцы г. г. („ліпенскі набор"). Курсы-ж „дазавуч" (па падрыхтоўцы ў школы ФЗВ і коопвучу) пачнуць працу не пазьней 20-25 чэрвеня, з тэрмінам навучаньня 3 месяцы. Такім чынам, скончыўшыя гэтыя курсы ўвальлюцца ў нашы школы ў канцы верасьня м-ца.

Памянёныя курсы будуць комплектавацца з ліку дзяцей рабочых, працуючых на сэзонных і падзённых работах, дзяцей батракоў, колгасьнікаў, пераросткаў дзіцячых дамоў і сямігодак, маючых веды за 5-6 груп сямігодкі. Праводзіцца яны будуць мясцовымі органамі асьветы і будуць арганізоўвацца як у гарадох, так і ў раёнах, на тэрыторыі якіх існуе школа. Комплектаваньне гэтых курсаў будзе праводзіцца пры актыўным удзеле органаў коопэрацыі і саміх школ.

Набор у школы на базе 7-годкі будзе праводзіцца ў ліпені м-цы („ліпеньскі набор"). У лік гэтага набору будуць прымацца, вучні скончыўшыя 7-годкі ў гэтым і мінулых гадох. Апроч школ масавага тыпу, па кантрольных лічбах намечаны контынгенты асеньняга набору і ў тэхнікумы. У гэтым годзе організуецца тэхнікум кулінарыі, які мае на мэце падрыхтоўку сярэдняга командната складу ў галіне грамадзкага харчаваньня — тэхнікаў-эконамістаў, тэхнікаў-тэхнолёгаў і хэмікаў лябарантаў. Коопэрацыйны тэхнікум у Віцебску мае на мэце падрыхтоўку плянавікоў-эконамістаў, тэхнікаў-таваразнаўцаў і эконамістаў-фінансістаў для сярэдняга зьвяна (Райсаюзаў, дробных ЦРК і ЗРК).

Паказаныя тэхнікумы комплектуюцца з ліку рабочых, колгасьнікаў, батракоў і практычных работнікаў спажыўсыстэмы, маючых веды за сямігодку.

Апроч памянёнай сеткі школ, паводле пастановы ЦКК П(б)Б, у гэтым годзе мае быць організаваны інстытут спажывецкай коопэрацыі на базе існуючага зараз коопэрацыйнага аддзяленьня БДУ.

Аб контынгентах набору і аб мэтавай установцы данага інстытуту намі будзе паведамлена асобна.

Для сваячасовага выкананьня адзначаныхвышэй контынгентаў перад органамі коопэрацыі і школамі стаіць адказная задача—адпаведная падрыхтоўка да набору.

Аднэй з асноўных задач у гэтай галіне зьяўляецца разгортваньне будаўніцтва па лініі школ для забесьпячэньня асеньняга набору. На падставе дырэктыў кіруючых органаў у гэтым годзе па ўсіх відах школ масавага тыпу можа праводзіцца будаўніцтва лёгкага тыпу, як напр., пабудова ацепленых баракаў пад інтэрнаты, прыстасаваньне будынкаў пад школы і інтэрнаты. Кіруючыся гэтымі ўстаноўкамі, мясцовыя органы павінны неадкладна разгарнуць будаўніцтва па школах.

Разам з гэтым неабходна разгарнуць працу па лініі папулярызацыі набору па асобных школах і па організацыі самога набору. У прыватнасьці трэба неадкладна распачаць працу па організацыі курсаў „дазавуч" і правядзеньні ліпеньскага набору. Сваячасовасьць організацыі курсаў „дазавуч" вымагаецца яшчэ і той акалічнасьцю, што азначаныя курсы зьяўляюцца аднэй з асноўных крыніц папаўненьня асеньняга набору школ.

Вялікую ролю ў выкананьні асеньніх контынгентаў набору павінны адыграць мясцовыя органы профсаюзаў, як напр., саюз працаўнікоў коопэрацыі, працаўнікоў грамадзкага харчаваньня і другія.

Профсаюзы павінны прыняць актыўны ўдзел у організацыі і комплектаваньні школ. Пры гэтым для наладжваньня большай увязкі ў гэтай працы, мэтазгодным зьяўляецца стварэньне пры школах комісій, у складзе прадстаўнікоў коопэрацыі, профсаюзу і школы, на якія неабходна ўскласьці адказнасьць за правядзеньне ўсёй працы па выкананьні контынгентаў асеньняга набору.

Усю гэту працу неабходна правесьці пры актыўным удзеле коопэрацыйнай грамадзкасьці, надаўшы ёй характар штурмавой кампаніі, і правесьці яе ўдарнымі тэмпамі. Разам з гэтым неабходна абвясьціць суровую вайну нядбайнасьці, безадказнасьці і опортунізму, якія мелі месца ў падрыхтоўцы кадраў да гэтага часу.



Сплаў лесу па рацэ Барэзіне каля г. Барысава.

В—кі

# Як рыхтуе кадры Віцебскі ЦРК

На старонках газэты „Рабочий"— ужо часткова адзначаліся недапушчальныя адносіны з боку праўленьня ВЦРК да справы падрыхтоўкі кадраў. Але-ж у сапраўднасьці адзначаныя факты далёка невычарпальна малююць сапраўднае становішча гэтай адказнейшай галіны дзейнасьці па ВЦРК.

### Паўнейшы самацёк

На першы погляд як быццам Віцебскі ЦРК на падрыхтоўку кадраў затрачвае вялікія сродкі, як на правядзеньне курсаў, так і іншых форм падрыхтоўкі, але-ж у сапраўднасьці гэтыя затраты не дасягалі мэты, бо гэтая праца праводзілася бяз усякага вучоту і плянаваньня. Пляны вучоту патрэбных кадраў адсутнічаюць, вывучэньне контынгенту з коопактыву і апарату для ўкомплектаваньня курсаў і ахопу іншымі формамі вучобы адсутнічае. Навучальныя пляны, мэтавыя ўстаноўкі тых альбо іншых курсаў, вызначэньне патрэбнасьці ў рыхтуемых працаўніках нідзе не абгаварваліся і не ўзгадняліся, у выніку чаго, як прыклад, навучальны плян курсаў рахункаводаў яўна супярэчыў існуючым устаноўкам.

Па разуменьні працаўнікоў ЦРК беларускую мову вывучаць ня зусім абавязкова, таму яе ў навучальны плян курсаў рахункаводаў яны і ня ўключаюць.

Вывучэньнем апарату, з мэтай адпаведнай расстаноўкі сіл спэцыяльнаю вучобаю номэнклятурных працаўнікоў у ЦРК—ніхто не займаецца.

### Курсы на правох бяспрытульных

Рыцары самацёку ЦРК арганізавалі курсы рахункаводаў і самі ня ведаюць, якой спэцыяльнасьці працаўнікоў рыхтуюць гэтыя курсы. Адны кажуць, што курсы рыхтуюць рахункаводоў для прыгарадных гаспадарак, другія—для грамадзкага харчаваньня, а іншыя кажуць, што для буйных магазынаў. Выкладчыкі спэцыяльных дысцыплін, ня ведаючы мэтавай устаноўкі курсаў, складалі програмы па свайму погляду (як прыклад— выкладчык рахункаводзтва Субоцін). Пры правядзеньні сходу курсантаў высьветлілася, што курсамі ніхто ня кіруе, і апошнія прадастаўлены самім сабе. У выніку гэткага „кіраўніцтва" з 27 курсантаў засталося толькі 14. Усялякая пазакурсавая выхаваўчая праца як на цяперашніх, так і на праведзеных курсах адсутнічала. Праўленьне ЦРК ня лічыла патрэбным заслухаць на пасяджэньні аб становішчы вучэбна-курсавой працы.

### Ня лепш справа і з ФЗВ

Пры Віцебскім ЦРК ёсьць школа ФЗВ кулінараў. Здавалася-б, што і ВЦРК асноўнай формай навучаньня кваліфікаванай рабочай сілы павінен прызнаць ФЗВ, але-ж на самай справе гэта ня так. Ня гледзячы на катэгорычнае неаднаразовае паказаньне з боку сэктару кадраў Белкоопсаюзу аб вызначэньні асобнай сталоўкі для правядзеньня вытворчай практыкі вучняў, гэтае мерапрыемства не ажыцьцёўлена і да сёньняшняга дня. Існуе вялікае разыходжаньне паміж тэорытычным навучаньньнем і вучэбнай практыкай, бо той асортымэнт прадуктаў, які ёсьць у гэтых сталоўках, ні ў якім разе не здавальняе мінімальных патрэб навучаньня і не забясьпечвае падрыхтоўку кваліфікаваных кухароў. Навучальныя стравы не практыкуюцца.

Грамадзкая пазашкольная праца ў школе адсутнічае, гуртковая пра-

ца не вядзецца. Вучням школы КГВ праўленьне ня выплачвала стыпэндыі на працягу 2 месяцаў, ня гледзячы на зазначэньне аб такім зьявішчы.

### Праца з вылучэнцамі на апошнім пляне

У ВЦРК цяжка высьветліць сапраўдную колькасьць вылучэнцаў, што ўліліся ў апарат. Па зьвестках інструктара кадраў у апараце ЦРК 115 вылучэнцаў, з якіх членаў партыі—72, комсамольцаў—17 і 26 беспартыйных. Скарыстоўваюцца так: заг. магазынаў—8, пам. заг. магазынаў—21, заг. сталовак—6, пам. заг. сталовак—6, загадчыкаў хлебапякарняў—2, інструктароў (розных галін) - 9, прадаўцоў прылаўку—60 асоб і ў прыгарадных гаспадарках — 3 асобы. Загадчык стала асабовага складу гэтыя лічбы адмаўляе. У працы з вылучэнцамі ня створаны адпаведныя ўмовы для падвышэньня іх ведаў у справе аўладаньня тэхнікай. Організаваныя курсы вылучэнцаў з прычыны адсутнічаньня належнага кіраўніцтва распаліся.

Існуе опортуністычная недаацэнка ролі вылучэнцаў ў коопапараце. Адсутнічае работа па прасоўваньні вылучэнцаў на больш адказную кіруючую працу. Ёсьць выпадкі перакідваньня вылучэнцаў з аднэй працы на другую, ня зьвязаную з падвышэньнем кваліфікацыі, што цягне за сабой падрыў аўторытэту вылучэнцаў, бо вылучэнцы ў гэткіх умовах пазбаўлены магчымасьці кваліфікавацца па той альбо іншай галіне. Усё гэта ў канечным выпадку вядзе да дыскрэдытацыі вылучэнцтва.

Вылучэнец Сокалаў на працягу 2 тыдняў перакідаўся некалькі разоў, пакуль не атрымаў абавязкі komэнданта памяшканьня. Амаль такі-ж малюнак з вылучэнкай Аўласенка.

### У ЦРК ня любяць крытыкі

Калі ў часе абгляду былі высьветлены ганебныя адносіны да справы падрыхтоўкі кадраў, яўны прарыў у гэтай справе, ігнораваньне дырэктыў у кіруючых організацыях, дык праўленьне ЦРК замест прызнаньня гэтых фактаў, прыняцьця рашучых захадаў да іх зьнішчэньня, мобілізацыі ўвагі грамадзкасьці на ліквідацыю прарыву займаецца адмаўленьнем устаноўленых фактаў і бярэ ў штыхі вывады агляду, якія малююць сапраўднае становішча. Оргмасавы-ж сэктар ЦРК пры абгаварэньні матар'ялаў гляду, замест прапрацоўкі мерапрыемстваў, забясьпечваючых наладжваньне працы, даў магчымасьць асобным працаўнікам „разразіцца грамавымі“ прамовамі, якія зводзіліся да выкрэсьліваньня пунктаў вывадаў.

### Далей так цягнуцца ня можа

Да адзначаных фактаў можна было-б яшчэ дадаць шмат матар'ялаў, якія сьведчаць аб прарывах у падрыхтоўцы кадраў па ВЦРК.

Неабходна рашуча ўдарыць па тых, хто ігноруе дырэктывы партыі і ўраду ў аднэй з важнейшых галін дзейнасьці спажыўкоопэрацыі—падрыхтоўцы кадраў.

Трэба раз назаўсёды прымусіць коопорганізацыі справе падрыхтоўкі і абнаўленьня кадраў удзяляць належную ўвагу і месца.

Час зразумець коопэрацыйным працаўнікам, што ад вырашэньня проблемы кадраў залежыць пасьпяховае выкананьне ўсіх галін дзейнасьці сыстэмы.

Аблавацкі

# Разгарнуць сыстэму завочнай адукацыі

Сетка навучальных стацыянарных установ спажывецкай коопэрацыі, ня гледзячы на яе значны ўзрост, ня мае магчымасьці даць патрэбную колькасьць кадраў у адпаведнасьці з задачамі, пастаўленымі перад спажывецкай коопэрацыяй.

Так, на працягу 1931—32 году патрэбнасьць і пакрыцьцё, па дадзеных сэктару кадраў Белкоопсаюзу, для сыстэмы спажывецкай коопэрацыі Беларусі спэцыялістаў сярэдняй і вышэйшай кваліфікацый—відаць з наступных лічбаў.

| Ступень кваліфікацыі | Патрэба ў новых кадрах | Папаўнен. (з навуч. установ, курсаў, ВНУ і г. д.) | Дэфіцыт |
|---|---|---|---|
| Сярэдняй кваліф. | 4609 | 3255 | 1364 |
| Вышэйшай . . . | 561 | 485 | 86 |

Нават, калі ў прыведзеных лічбах узята папаўненьне ня толькі за кошт выпуску з стацыянарных навучальных установ, а ўлічана кароткатэрміновая падрыхтоўка, прасоўваньне ў парадку падвышэньня і інш., усё-ж ёсьць вялікі дэфіцыт спэцыялістаў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі, ня кажучы ўжо аб дэфіцытнасьці масавых прафэсій, кіруючага складу і г. д.

Адсюль надзвычайна яскрава відаць, што ў сучасны момант сыстэма завочнага навучаньня адыгрывае вялізарнейшую ролю ў карэнным вырашэньні проблемы кадраў, якое, (вырашэньне) магчыма пры ўмовах шырокага разьвіцьця завочнай сыстэмы навучаньня. Гэта сыстэма дае магчымасьць ужываць больш актыўныя мэтады вучобы, падрыхтаваць патрэбную колькасьць працаўнікоў без адрыву ад вытворчасьці і з меншымі грашовымі затратамі.

Між тым сучаснае становішча завочнай адукацыі ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі сьведчыць аб поўнай недаацэнцы гэтае формы навучаньня з боку ўсяе сыстэмы. Кіраўніцтва гэтай працай, пачынаючы ад сэктару кадраў Цэнтросаюзу не наладжана.

**Па кантрольных лічбах на працягу 1931 году спажыўсыстэмай Беларусі павінна быць ахоплена завочным навучаньнем па розных спэцыяльнасьцях 515 асоб, фактычна-ж ахоплена толькі 96 асоб.**

Адбыўшаяся нарада па кадрах спажыўкоопэрацыі пры Цэнтрасаюзе падкрэсьліла ў сваёй пастанове неабходнасьць максымальнага разгортваньня завочнага навучаньня, выходзячы з наступных прынцыпаў:

а) пабудова завочнага навучаньня па галінавай адзнацы на матэрыяльна-тэхнічнай базе стацыянарных навучальных установ;

б) дэцэнтралізацыя опэрацыйнага кіраўніцтва завочнікаў, організацыя завочных сэктароў мясцовых навучальных установ з базамі і апорнымі пунктамі пры прадпрыемствах і установах;

в) сувязь завочнага способу навучаньня з рознымі формамі і мэтадамі навучаньня, ужываемымі ўсёй сыстэмай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў народнай гаспадаркі (курсы-конфэрэнцыі, консультацыі, лябораторныя сэсіі і г. д.);

г) прыраўнаваньне правоў скончыўшых завочныя навучальныя установы да правоў асоб, скончыўшых адпаведныя стацыянарныя навучальныя установы. (Гэтыя прынцыпы выцякаюць з пастановы СНК РСФСР ад 3/III-31 г.).

Выходзячы з гэтага, завочнае навучаньне ў сыстэме спажывецкай коопэрацыі павінна будавацца выключна на матар'яльна - тэхнічнай

базе стацыянарных навучальных устаноў, што бязумоўна забясьпечыць лепшую падрыхтоўку і падвышэньне кваліфікацыі працаўнікоў.

Асноўнымі ўстановамі ў спажывецкай коопэрацыі, праводзячымі завочнае навучаньне, зьяўляюцца: Маскоўскі інстытут спажывецкай коопэрацыі імя І. М. Любімава, пры якім ёсьць завочны сэктар вышэйшай коопэрацыйна-экономічнай адукацыі, завочны сектар пры Вышэйшым пэдагогічным інстытуце прыкладнай экономікі і таваразнаўства і цэнтральныя завочныя коопкурсы. У сучасны-ж момант разгортваецца завочнае навучаньне пры Віцебскім беларускім коопэрацыйным тэхнікуме.

Неабходна зараз-жа зрабіць належны пералом у справе разгортваньня завочнай адукацыі.

На мясцох райсаюзам і ЦРК патрэбна правесьці адпаведную працу па стварэньні грамадзкай думкі вакол гэтага пытаньня, правесьці вярбоўку завочнікаў, з вылучэнцаў, коопактыву, практычных працаўнікоў.

Вярбоўку завочнікаў трэба ўвязаць з наборам, што праводзіцца у стацыянарныя навучальныя ўстановы.

Пасьпяховае вырашэньне проблемы кадраў настойліва патрабуе належнай увагі гэтай справе з боку мясцовых партыйна - комсамольскіх, профэсіяналняых і грамадзкіх організацый.



Фабрыка-кухня № 2 у г. Маскве. Знадворны выгляд.

# Коопэрацыйная трыбуна

А. Ліхадзіеўскі

## Бясплянавая... плянавасьць

У адзін прыгожы дзень Борка-віцкаму райспажсаюзу прышло з Белкоопсаюзу паведамленьне: „Вам выслана літаратура на нацыянальных мовах, распаўсюджвайце яе".

— Ну што-ж,—сказаў старшыня,—выслалі, значыцца сюды прыдзе, прадаваць будзем, прасьвяшчаць працоўных пачнем...

Прайшлі дні, а разам з імі прышоў груз з кнігамі. Распакавалі, паглядзелі і за галовы хапіліся:

— Да што-ж гэта творыцца? Хто там плянуе? Гэта-ж трэба галаву мець—прыслаць кніжак на 3800 р. толькі на яўрэйскай мове, а на польскай онь сколькі яшчэ.

Сэкратар кінуў на шчоты.

— 3800 рублёў, падзеленыя на 610, раўняецца 6 руб. і 26 кап. Таварыш старшыня, таварыш старшыня...

— Што такое?—узьняў галаву задумны чалавек.

— Ды гэта-ж выходзіць кніжак на кожнага чалавека, калі лічыць ад дню нараджэньня і да самае сьмерці, на 6 р. 26 к. Хто-ж гэта раскупіць столькі?

Старшыня падумаў хвіліну і сказаў:

— Давай адносіну ў Белкоопсаюз, каб частку забралі, а то другі раз яны ў абавязковым парадку яшчэ больш прышлюць. Што ім—гуртам лягчэй адпраўляць, упакоўваць.

Пачалася перапіска, адпісваньне, тэлеграмы, адказы...

— Ну, хай-бы яны запыталі, ці зможам мы столькі рэалізаваць, а то шлюць і ня знайся. Можна было-б накіраваць частку з гэтае колькасьці ў другі раён, дзе больш яўрэйскага і польскага насельніцтва, а нам даць ходкіх кніжак,—даводзіў мне старшыня.

А кнігі ляжаць, кнігі не распаўсюджваюцца.

---

А. Пр-кі

## Наладзіць грамадзкае харчаваньне

(*Боркавічы*)

Зусім няма патрэбы даводзіць, што добра організаванае грамадзкае харчаваньне зьяўляецца першарадным стымулам у выкананьні прамфінпляну, аднак, па-інакшаму разумеюць гэта ў Боркавічах.

У раёне адбываецца чыгуначнае будаўніцтва. Для забесьпячэньня рабочых грамадзкім харчаваньнем неабходна было адчыніць 4 сталоўкі, але іх і да гэтага часу няма. Райспажсаюз тлумачыць гэты прарыў об'ектыўнымі прычынамі.

— Бачыце, няма сталоў, скварадаў, чыгуноў і іншага абсталяваньня. А бяз іх-жа сталовак не адчыніш.

Так, няма абсталяваньня, а само яно, скажэце, ніякім чынам ня прыходзіць у Боркавічы.

А пра падрыхтоўку грамадзкіх сталовак на час уборачнай кампаніі яны і пагатоў нічога ня думаюць.

Ці не пара разварушыцца?

„Фак“

## З мобілізацыяй сродкаў дрэнна

(*Сіроцінскі раён*)

Па Сіроцінскаму райспажсаюзу плян мобілізацыі сродкаў зрываецца. На красавік было 17.100 р. паявога капіталу, а выканалі — 2.110 р., або 12 проц. На май заданьне —7950 р., выканалі на 10 мая — 614 р.

Ня лепш і з фондам будаўніцтва. Заданьне на красавік было 4800 р., а выканалі—1.108 р., на май заданьне—3.600 р., выканалі да 10 мая 272 руб.

Усё гэта робіцца дзякуючы недаацэнцы оргаддзелам гэтае працы. Аддзел мала ўдзяляе ўвагі растлумачальнай рабоце па мобілізацыі сродкаў. Праца сельСТ не правяраецца, працаўнікі не інструктуюцца. Па опортуністычных настроях і самацёку ў Сіроцінскім райспажсаюзе трэба ўдарыць як сьлед.

Плян рэальны, яго можна выканаць, і выканаць патрэбна.

Васілеўскі В.

## Калі аддадуць прэмію?

Колгас „Чырвоная зара“, Коханаўскага раёну. яшчэ ў лістападзе месяцы здаў усе свае лішкі ільнавалакна. За ўсё гэта патрэбна было атрымаць прэмію прамтаварамі на суму 250 руб. Але гэтыя прамтавары яшчэ і цяпер ня вызначаны. Коханаўскі райсаюз зусім не клапоціцца аб выдачы прэмій. Наадварот райспажсаюз усякімі спосабамі затрымлівае. Ён пасылае за атрыманьнем прэміі ў Жукнёўскае сельспажтаварыства, а апошняе назад у раён. Нават тады, калі Жукнёўскае сельспажтаварыства дало адносіну ў райсаюз, што прэмія яшчэ ня выдана, апошні зусім не паклапаціўся накіраваць тавары на прэмію.

Неабходна ў хуткім часе выдаць прэмію за ільназагатоўкі. Вінаватых у затрымцы прэмій прыцягнуць да суровай адказнасьці.

Захарэнка М.

## Разьбіць опортуністычную дзейнасьць Асінаўскага сельспажтаварыства

(*Расьнянскі раён*)

Кожнаму вядома, што мобілізацыя сродкаў у сучасны момант адыгрывае адну з першарадных задач.

Паглядзім, як гэта ўспрыймаецца Асінаўскім сельспажтаварыствам, Расьнянскага раёну. За другі квартал сельСТ ганебна праваліла плян мобілізацыі сродкаў насельніцтва. Опортуністычная практыка работы сельСТ на чале са старшынёю Ушаковым прывяла да таго, што з больш заможнай часткі насельніцтва, якая плоціць па 70-80 р пай, да гэтага часу не спагнаны паявыя ўзносы.

Ёсьць факты разбазарваньня прамтавараў. Сам Ушакоў прадаў гарнітур Глазунову зусім не па прызначэньні, а як сябру па выпіўцы.

Дырэктывы райкоопсаюзу ня выконваюцца. Сельспажтаварыства яўна бязьдзейнічае.

Справай работы Асінаўскага сельспажтва зараз занялася Расьнянская РСІ, якая выкрыла яшчэ шмат ганебных фактаў дзейнасьці Ушакова.

# Хроніка

● Праўленьне Белкоопсаюзу зацьвердзіла гадавыплян паступленьня мэтавага малака ў колькасьці 46145 тон.

З гэтае колькасьці павінна быць адпушчана для апрацоўкі на масла—23.000 тон з абавязковым выхадам масла—985 тон і 2.600 тон малака на сыр, з выхадам 226 тон сыру.

● Наркомснаб СССР зацьвердзіў плян загатовак грыбоў ураджаю 1931 г для БССР у разьмерах—4000 тон. З гэтае колькасьці сушаных смарчкоў, страчкоў—50 тон, сухіх белых—400 тон, сухіх чорных—600 тон, белых марынаваных - 250 тон, іншых адварных і салоных—2.690 тон.

● У 1931 г. на заводах СССР, якія аб'ядноўваюцца Саюзмаслам, Цэнтросаюзам, Саюзхлебам і Ільнацэнтрам, намечана даць для спажыўца падсонечнага алею, у круглых лічбах 200.000 тон, ільнянага—64.000 тон.

● Праўленьнем Цэнтросаюзу зацьверджан плян капітальных укладаньняў у сыстэмы спажкоопэрацыі Беларусі на 1931 год у суме 8 277 тыс. руб.

У першую чаргу павінна быць забясьпечана будаўніцтва новабудоўляй раёнаў і прамысловых пунктаў.

● Паміж Саюзплодагароднінай і Садагародцэнтрам заключана генэральная умова, па якой у 1931 г павінна быць здана на Беларусі: пладоў сьвежых семячковых (яблыкі, ігрушы)—15.320 тон, капусты—4.500 тон, цыбулі - 1 000 тон, гуркоў—2.000 тон, морквы—1.500 тон і сухой гародніны—100 тон.

Саюзплодагародніна ўзяла на сябе абавязак забясьпечыць сыстэму Садагародцэнтру тарай і іншымі ўпаковачнымі матар'яламі.

● Праўленьне БКС вырашыла пытаньне аб організацыі лясных рабочых коопэратываў, і тарфяных рабочых коопэратываў, як самастойных сэктароў сыстэмы коопэрацыі.

● Наркомснаб Саюзу ўстанавіў канчатковы плян контрактацыі табакі па Беларусі на 1931 год у разьмеры 2000 га.

● Для лепшага абслугоўваньня рабочага спажыўца праўленьне БКС пастанавіла ў бліжэйшыя дні адчыніць некалькі продуктова-таварных магазынаў у гарадох: Менск, Гомель, Віцебск.

● Белкоопсаюзам заключаны дагаворы па загатоўках: з Гелшчацінай—на 436.000 руб., з Саюзшэрсьцю—на 36.540 руб., з Пушсындыкатам—на 240.000 руб., з Белутылем—на 792 000 руб., з Белптушкапродуктам (на птушку) - на 439.250 р., на яйкі—на 763.000 р.

Усяго Белкоопсаюзам заключана дагавароў на 2.909 650 рублёў.

Мяркуецца яшчэ дадаткова заключыць дагавароў на суму 3.945.000 руб.

● Усекоопромсаюз прадставіў у Наркомзем Саюзу плян работы па рамонце сельскагаспадарчых машын і машынабудаўніцтва да ўборачнай кампаніі 1931 г. Плян кошту рамонту сельскагаспадарчых машын па ўсяму Саюзу, па сыстэме спажкоопэрацыі складаецца з 1.977,5 тыс. руб.

● СПА вынесла пастанову аб разгортваньні папяровай прамысловасьці. Пастанова абавязвае Утыльдзяржгандаль прад'явіць запатрабаваньне да ўсіх савецкіх, коопэрацыйных і грамадзкіх організацый, а таксама бібліятэк, выдавецтваў, гандлёвых складаў і іншых кнігахавальняў зараз-жа здаць увесь архіўны матар'ял, які ня мае практычнай каштоўнасьці.

---

**Ніводнага коопэрацыйнага працаўніка не павінна застацца без облігацыі „Трэцяга, рашаючага“**

---

# Бібліографія

**М. Новік. Зьбярэм водкіды, набудзем трактары. Выданьне БДВ, тыраж 10.000 экз. Стар. 50.** *Цана 15 кап.*

Мы часта топчам нагамі, не зьвяртаем ніякай увагі на тое, што ў сапраўднасьці мае значную вартасьць, што пры ўмелым скарыстаньні прынясе вялікую карысьць.

Варта толькі аглядзецца навакол хаты, у хаце, на гары хаты, і вы знойдзеце там цэлыя кучы ўсякага рызьзя, непатрэбныхануч, касьцей, бляшанак і г. д., якія ня толькі не даюць ніякае карысьці, але, наадварот, прыносяць шкоду, дапамагаючы распаўсюджваньню заразы.

А колькі ўсякіх сьмецьцевых расьлін водзіцца на полі, заглушаючы часам збожжа. Большасьць гэтых расьлін пры ўмелым скарыстаньні можа даць значны прыбытак. Нават тая крапіва, што расьце вышэй платоў, можа скарыстацца, як лекавая расьліна.

Невялічкая па сваім памеры рэцэнзуемая кніжка М. Новік паказвае тую відавочную карысьць, якую можа атрымаць зьбіральнік ад розных водкідаў і лекавых расьлін, не затрачваючы на гэта шмат энэргіі. Кожны зьбіральнік робіць дзьве карысьці: ён павялічвае свой бюджэт і дапамагае дзяржаве ў загатоўцы экспартнае сыравіны. Экспартная сыравіна—гэта тая валюта, за якую мы ўвозім розныя машыны і абсталяваньні для нашых гігантаў-заводаў.

Як прыклад, аўтар прыводзіць такі факт: калі сабраць за год па БССР конскі волас, то за яго можна набыць 500 трактараў. А ці-ж мала ў таго ці іншага гаспадара валяецца бяз дай патрэбы падрэзаны ў каня волас?

Аўтарам даецца падрабязнае растлумачэньне адносна розных відаў загатовак утылю, як: ануч, косьці, рогі, капыты, скураная сыравіна, грыбы, лекавыя расьліны і г. д. і г. д.

Кніжачка мае вартасьць ня толькі для загатоўцаў, як матар'ял для агітацыі, але яе карысна мець у кожнай хаце-чытальні для растлумачэньня работы. Прачытаеш яе, і стане зразумела ўся тая каштоўнасьць водкідаў, на якую мала хто зьвяртае ўвагу ў штодзённым жыцьці.

**А. С-кі.**

---

**К. Сокалаў—Спажывецкая коопэрацыя адказвае за выкананьне прамфінпляну. Выд-ва БДВ. Тыраж 5.000 экз., стар 48,** *цана 10 кап.*

Напісана гэта кніжачка з мэтай папулярызацыі адозвы ЦК Усе КП(б) ад 3 чэрвеня 1930 году.

Аўтар у кароткіх рысах растлумачыў сутнасьць і значэньне гэтага гісторычнага дакуманту. Ён спыняецца падрабязна на тых задачах, якія ўскладаюцца рабочай клясай на коопэрацыю. Ад тато, як будзе наладжана справа з забесьпячэньнем рабочых мас, як продуктамі, так і прамтаварамі, залежыць і пасьпяховасьць у выкананьні трэцяга году пяцігодкі.

У кніжачцы прыводзіцца цэлы шэраг фактаў, дзе паказваецца, як у некаторых мясцох асобныя спажсаюзы і таварыствы няўважліва адносіліся да свае справы. У процілегласьць гэтым фактам даюцца факты дадатковага парадку, дзе спажсаюзы змаглі прыстасаваць сваю работу да запатрабаваньняў рабочых мас, і як гэта мела відавочныя вынікі на выкананьні прамфінпляну.

Брошура зьяўляецца добрым дапаможнікам для ўяўленьня тых задач, якія стаяць перад спажывецкай коопэрацыяй.

Адно прыходзіцца пашкадаваць, што кніжачка, зьяўляючыся перакладам з расійскае мовы, пазбаўлена фактаў, дзе паказваліся-б хібы і дасягненьні перабудовы спажкоопэрацыі БССР. У гэтым, бязумоўна, віна і БДВ і Белкоопсаюзу, якія не паклапаціліся ілюстраваць работу спажкоопэрацыі Беларусі мясцовым матар'ялам, абмежаваліся матар'яламі, якія былі ў кніжцы, матар'яламі з работы коопэрацыі другіх рэспублік.

**К. Леўскі.**

---

*Адказны—Рэдактар* **Гінзбург**

*Выдавец*—**Белкоопсаюз і Белсампрамсаюз**